# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 24 (903) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 17 ЧЭРВЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.

## „БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ -73“ — ПРАЦЯГ

Зноў вялікая зала на Варшаўскай 11 гучэла песняй. У апошнюю нядзелю мая з'ехаліся сюды вучні, для якіх куратория школьнай акругі і Галоўнае праўленне БГКТ арганізавалі агляд беларускай песні.

Як і заўсёды, зала запоўнена гледачамі. На гэты раз найбольш школьнікаў і настаўнікаў. Сярод прысутных госці: Антоні Гжэськевіч — кіраўнік аддзела культуры Прэзідыума ВРН, Аляксандр Сяўко — прадстаўнік Ваяводскага камітэта ПАРП, Міхась Кураш — прадстаўнік куратории школьнай акругі, Ян Алетуровіч — прадстаўнік Ваяводскага праўлення ТППР.

Удзельнікаў агляду, іх апекуноў і ўсіх прысутных прывітаў старшыня Галоўнага праўлення Мікола Самоцік. І зараз жа распачаўся багаты ручай песень у выкананні перш за ўсё вучняў пачатковых школ. Удзельнікі выступалі ў катэгорыі салістаў, дуэтаў, тэрцэтаў і квартэтаў, усяго было больш 60 вучняў-самадзейнікаў.

У катэгорыі салістаў ачаравала ўсіх голасам і інтэрпрэтацыяй Ірэна Назарук, вучаніца пачатковай школы № 3 у Гай-

(Працяг на стар. 4)



*Ірэна Назарук — лаўрэатка першай узнагароды ў галіне салістаў.*

## БГКТ ХРОНІКА

■ 25 мая ў варшаўскім аддзеле БГКТ адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны жыццю і творчаму шляху выдатнага беларускага паэта Максіма Танка. З дакладам на гэту тэму выступіў старшыня аддзела Аляксандр Баршчэўскі. Сакратар аддзела Віктар Швед падзяліўся з прысутнымі ўражаннямі аб асабістых сустрэчах з вялікім паэтам Беларусі. Затым дзеці Наташа і Ганя Туронак, а таксама студэнты беларускай філалогіі дэкламавалі вершы Максіма Танка.

■ 30 мая прэзідыум гарадскога аддзела ў Беластоку разгледзеў наступныя справы: 1) арганізацыя 24 чэрвеня ў горадзе Беластоку (у парку) народнага беларускага фэстына, 2) арганізаванне 21 чэрвеня маёўкі ў Плёсках, на якую паехалі б жыхары горада, 3) зацвярджэнне кандыдатуры Марка Камінскага на мастацкага кіраўніка харавога калектыву, 4) прыняццё ў члены БГКТ больш як 30 асоб, 5) бягучыя справы аддзела.

■ 31 мая камісія Галоўнага праўлення БГКТ перадала беларускі этнаграфічны музей у Белавежы Акруговаму музею ў Беластоку.

■ Зацвярджэнне плана працы на другое паўгоддзе, зацвярджэнне плана мерапрыемстваў, звязаных са святкаваннем XXX гадавіны Войска Польскага, XXX гадавіны Народнай Польшчы, арганізацыя 17 чэрвеня ў Літвінавічах народнага беларускага фэстына — вось якая была тэматыка пасяджэння прэзідыума сямяціцкага аддзела БГКТ у Мілейчыцах, якое адбылося 2 чэрвеня. Прынялі ў ім удзел старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік і культурна-асветны кіраўнік ГП БГКТ Валянціна Філіпюк.

■ 2 чэрвеня на сходзе гуртка БГКТ у Дубяжыне старшыня бельскага аддзела БГКТ Аляксей Карпюк уручыў новыя членскія легітымацыі, а старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік — дыплом за ўдзел харавой групы ў конкурсе „Беларуская песня — 73“. Затым абмеркаваны былі справы, звязаныя з арганізацыяй беларускага народнага фэстына ў Дубяжыне. Пасля сходу адбылася рэпетыцыя харавога калектыву. У гэтым пасяджэнні прынялі таксама ўдзел культурна-асветны кіраўнік ГП Валянціна Філіпюк і сакратар бельскага аддзела Анна Лазавік. (мх)

## У дажынкавы вянок




## БЕЛЬШЧЫНЫ

ГАВОРЫЦЬ СТАРШЫНЯ ПРЭЗІДЫУМА ПРН У БЕЛЬСКУ, МАГІСТР ДЗІМІТР ІГНАЦЮК.

— Сяляне Бельшчыны ўносяць у дажынкавы вянок перш за ўсё сваю самаахвярную працу дзеля павышэння агульнага дабрабыту ў нашай краіне. Аб выніках гэтай працы хай сведчыць тое, што ад сялян Бельскага павету ў мінулым годзе наша дзяржава атрымала 11 тысяч тон мяса, звыш 40 мільёнаў літраў малака, амаль 20 тыс. тон збожжа, больш чым 20 тыс. тон бульбы.

Павет наш мае амаль выключна сельскагаспадарчы характар. Мы прадукуем харчовыя прадукты і сыравіну для спажывецкай прамысловасці. Стараемся рабіць гэта як найлепш. 22 цэнтнеры збожжа, 200 цэнтнераў бульбы і 380 цэнтнераў цукровых буракоў з кожнага гектара пасеваў — вось сярэднія вынікі мінулагодніх змаганняў за ўраджай у Бельскім павеце. На фоне Беласточчыны яны ўжо не найгоршыя, але могуць быць і будуць яшчэ лепшыя. Гэта таксама наш уклад у дажынкавы вянок. Нашы сяляне маюць абавязак не толькі забяспечыць усімі харчовымі прадуктамі свае сем'і, але яны таксама шмат чаго прадаюць дзяржаве, што вынікае з прыведзеных тут лікаў.



*Старшыня Прэзідыума ПРН у Бельску Падляшскім мгр Дзімітр Ігнацюк.*

Каб прадаваць яшчэ больш, неабходна прымяняць сучасныя сродкі павышэння ўраджаю, а перш за ўсё высокія дозы мінеральных угнаенняў. На гэты год запланавана ў нас 115 кг хімічна чыстага азоту, фосфару і калію (патасу) на адзін гектар зямельных угоддзяў. Такой высокай колькасці ўгнаенняў наша вёска дагэтуль не ведала. А будзе іх яшчэ больш. Асабліва лічым на добры прыклад перадавых гаспадароў, перш за ўсё тых, якія ў нашым павеце змагаюцца за званне **„майстар сельскагаспадарчай прадукцыі“ і „прыкладны гаспадар“**. Трэба ж памятаць, што „майстрам сельскагаспадарчай прадукцыі“ можа называцца толькі той селянін, які ў сваёй гаспадарцы мае ў сярэднім на 50 прац. вышэйшыя паказчыкі па ўраджаю і жывёлагадоўлі, чым яго аднавяскоўцы. Патрабаванні ад „прыкладнага гаспадара“ адпаведна на палавіну скрамнейшыя.

Я маю поўнасцю абаснаваную надзею, што нашай дэлегацыі на цэнтральныя дажынкавыя ўрачыстасці ў Беластоку не прыдзецца чырванець ад сораму за сялян Бельшчыны. Аб беластоцкіх дажынках пачалі мы гаварыць у вёсках Бельскага павету яшчэ ранняй вясной. Менавіта з думкай аб дажынках 108 вёсак (на 213, якія знаходзяцца ў межах павету) прыступіла да конкурсу „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“. У гэтых вёсках жыве звыш 7.700 гаспадароў.

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“





**Новы Беласток. Пасёлак „Пяста“.** **Фота Я. Цялушэцкага.**

 



 СВЕТ

## АГУЛЬНАЕЎРАПЕЙСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

Пасля амаль 7-мі месяцаў закончыліся ў Хельсінкі шматбаковыя падрыхтоўчыя перагаворы па справах еўрапейскай канферэнцыі бяспекі і супрацоўніцтва. Прадстаўнікі еўрапейскіх краін, а таксама Злучаных Штатаў і Канады аднадумна прынялі канчатковы дакумент, які прадстаўляе сабой рэкамендацыі для канферэнцыі.

Справа склікання канферэнцыі даспела ўжо даволі даўно. Першыя ініцыятывы адносна еўрапейскай бяспекі былі прадстаўлены першапачаткова Польшчай, а потым іншымі сацыялістычнымі краінамі.

На канферэнцыі ў Хельсінкі апрацавана дзесяць прынцыпаў супрацоўніцтва, пачынаючы ад спраў эканамічнага і палітычнага характару па справы культурнага супрацоўніцтва і гуманітарызму. Вырашана, што агульнаеўрапейская канферэнцыя па справах бяспекі і супрацоўніцтва адбудзецца ў трох этапах. 3 ліпеня г.г. адбудзецца канферэнцыя міністраў замежных спраў і будзе гэта першы этап канферэнцыі. Прадбачваецца, што ў верасні канферэнцыя будзе працягваць работу ў Жэневе, дзе будуць працаваць паасобныя спецыялістычныя камісіі, падрыхтоўваючыя канчатковы дакумент і будзе гэта другі этап канферэнцыі. Трэці этап — гэта канферэнцыя ў Хельсінкі, дзе адбудзецца падпісанне дакументаў канферэнцыі.

## ІНТЭГРАЦЫЯ

У Празе закончылася XXVII сесія Савета Эканамічнай Узаемадапамогі. Яна падвяла вынікі выканання комплекснай праграмы, прынятай два гады назад.

Эканамічная інтэграцыя краін — членаў СЭУ паслядоўна забяспечвае нацыянальныя інтарэсы яе ўдзельнікаў, узьдым тых галін гаспадаркі, якія ў поўнай меры адпавядаюць нацыянальным традыцыям і рэсурсам. Гэта супрацоўніцтва ўжо набыло вялікі размах. А вось канкрэтныя факты:

● У старажытным балгарскім горадзе Свіштаў на беразе Дуная будуецца сучасны хімічны камбінат „Свілоза“. На хімічным гіганце ўстаноўлены машыны і агрэгаты, зробленыя машынабудаўнічымі прадпрыемствамі Балгарыі, Савецкага Саюза, Чэхаславакіі і іншых краін — членаў СЭУ.

● Жыхары дваццаці пяці савецкіх гарадоў ездзяць у зручных і хуткіх тралейбусах, пабудаваных заводам „Шкода“ ў заходнечэшскім горадзе Остраў. Толькі сёлета Савецкі Саюз атрымае 400 сучасных тралейбусаў, а агульная колькасць гэтых машын, што курсіруюць па вуліцах савецкіх гарадоў, дасягне трох тысяч.

● У Польшчы распачалася будова польскага „стотысячніка“. Даўжыня гэтага гігантычнага судна каля 250 метраў, шырыня — 38,7 метраў, вышыня — 38 метраў. Магутнасць суднавага рухавіка — 20 тысяч конскіх сіл. Яго энергіі хапіла б для асвятлення горада з 20-тысячным насельніцтвам. Калі ўвесь груз, які ўмесціць у сваіх трумах гігант, размясціць у вагонах, атрымаўся б поезд даўжынёй у некалькі кіламетраў.

Зацікаўленне сесіяй было і таму вялікае, што краіны-ўдзельніцы СЭУ даюць 30 працэнтаў сусветнай прадукцыі. (ак)

 БССР

## ЗА ЎРАДЖАЙ

Цэнтральны Камітэт КП Беларусі і Савет Міністраў Беларускай ССР супольна прынялі пастанову „Аб мерах па догляду пасеваў, забеспячэнню ўборкі ўраджаю і нарыхтовак сельскагаспадарчых прадуктаў у 1973 годзе“. Пастанова вызначае канкрэтныя заданні паасобным міністэрствам БССР, дае ўказанні дзяржаўным і калгасным гаспадаркам, партыйным і савецкім органам.

## 500 ЦЭНТНЕРАЎ БУЛЬБЫ

Палявыя брыгады калгаса „Беларусь“ і саўгаса „Любанскі“ выступілі ініцыятарамі спаборніцтва за атрыманне 500 цэнтнераў бульбы з аднаго гектара. Заклік прынялі іншыя калгасныя і саўгасныя гаспадаркі.

## ПТУШКАФАБРЫКА

За 10 кіламетраў ад Мінска ўзводзіцца Дубаўлянская птушкафабрыка. Яна зможа штогод пастаўляць Мінскаму птушкагадоўчаму вытворчаму аб'яднанню паўтара мільёна высокапародных курэй-нясушак.

## РАССПЯВАНЫ МІНСК

У Мінску адбыўся ўсесаюзны конкурс прафесійных выканаўцаў савецкай песні і вакальна-інструментальных ансамбляў. Арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца ЦК ВЛКСМ, Міністэрства культуры СССР, Дзяржаўны камітэт Савета Міністраў СССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню і праўленне Саюза кампазітараў СССР. У спаборніцтве прынялі ўдзел спевакі і вакальна-інструментальныя калектывы Азербайджана, Украіны, Казахстана, Латвіі, Малдавіі, Беларусі, Кіргізіі, Арменіі, Кабардзіна-Балкарыі і Паўночнай Асеціі, гарадоў Масквы і Ленінграда, Чалябінска і Чыты, Свярдлоўска, Растова-на-Доне, Пензы і Саратава. Разам да конкурсу прыступіла больш 300 выканаўцаў.

Ад Беларусі выступілі саліст Беларускай дзяржаўнай філармоніі Валеры Кучынскі, студэнтка кансерваторыі Вольга Цішына, артыст акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы Валерый Анісенка, а таксама вядомы ансамбль „Песняры“. Пры нагодзе варта адзначыць, што гэты ансамбль прыняў удзел у фэстыне „Трыбуны Роботнічэй“ у Катовіцах. „Песняры“ выканалі вядомую народную песню „Касіў Ясь канюшыну“. Слухалі таксама тэлегледачы ўсёй Польшчы і іншых краін, бо канцэрт перадаваўся па каналах Інтэрвізіі.

## КАНДЫДАТЫ НА ПРЭМІІ

Сярод кандыдатур на атрыманне Дзяржаўных прэмій СССР 1973 года, між іншым, названы А. Макаёнак (п'есы „Зацюканы апостал“ і „Трыбунал“), калектыў стваральнікаў Мемарыяльнага ансамбля „Брэсцкая крэпасць-герой“ на чале з кіраўніком работы скульптарам А. Кібальнікавым, мастак М. Савіцкі за цыкл карцін „Гераічная Беларусь“ і насценны роспіс „Айчынная вайна. 1944 год“ у музеі Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску, мастацтвазнаўца У. Няфёд. (вр)

 ПОЛЬШЧА

## НАРОДНАЕ СВЯТА

Сяляне супольна з рабочымі святкавалі народнае свята. Цэнтральная акадэмія адбылася ў Плоцку. Прысутнічалі член Палітбюро ПАРП віцэ-прэм'ер Ю. Тэйхма і старшыня Галоўнага камітэта ЗСЛ С. Гуцва. Выступілі яны на акадэміі з прамовамі.

## ВЯЛІКАЕ ЗНАЧЭННЕ — СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ

Надзённыя задачы сельскай гаспадаркі, рэалізацыя інвестыцыйных планаў у спажывецкай прамысловасці і вясковай спулдзельчасці, а таксама падрыхтоўка да V агульнапольскага з'езду сельгасгурткоў былі ў апошні час тэмай нарады сакратароў ВК у ЦК ПАРП.

## Э. ГЕРЭК ЗАПРОШАНЫ Ў БЕЛЬГІЮ

І сакратар прыняў пасла Бельгіі ў Польшчы, які перадаў яму ліст прэм'ера свайго ўрада з запрашэннем да афіцыяльнага візіту ў Бельгіі. Запрашэнне было прынята.

## ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПОЗНАНСКІ КІРМАШ

У гэтым годзе, інакш як даўней, Познанскі кірмаш змяніў сваё аблічча: з кірмашу ўсячыны ператварыўся ў тэхнічны кірмаш. Тэхнічныя вырабы прывезлі ў Познань больш як 4 тысячы фірм.

## ДАСЯГНЕННІ ПОЛЬСКАЙ НАВУКІ

Калектыў вучоных Вайсковай тэхнічнай акадэміі супольна з інстытутам ядзе[illegible]ных доследаў, які працаваў пад кіраўніцтвам генерала дывізіі праф. др Сільвестра Каліскага, дабіўся выдатных поспехаў. Пры дапамозе ласернага імпульсу і сістэмы „Фокус“ атрымалі яны тэмпературу плазмы некалькі дзесяткаў мільёнаў градусаў па Цэльсію. Гэтыя дасягненні служаць пошукам танных крыніц энергіі.

## НА ГРАНІЦЫ ПОЛЬШЧЫ І ГДР

Мірная маніфестацыя адбылася ў Альбек на дзяржаўнай граніцы паміж ПНР і ГДР. Сабраліся тысячы людзей са Шчэцінскага ваяводства і Растоцкай акругі.

## НАШ ЗАМЕЖНЫ ГАНДАЛЬ

Паводле гадавіка за 1972 год, вартасць імпарту была — 19,6 мільярдаў зл. дэвізовых (узрост на 21,4 прац.), вартасць экспарту — 18,1 мільярда зл. (узрост 17,1 прац.). Гэта найвышэйшая дынаміка ў гандлёвым тавараабароце з заграніцай на працягу 20 год. 1/3 нашых тавараабароту прыпадае на СССР.

## ГОСЦЬ З ЧЭХАСЛАВАКІІ

Міністр замежных спраў Чэхаславакіі Багуслаў Хнеўпек прабываў з візітам у нашай краіне. Правёў ён размовы з нашым міністрам замежных спраў, якія паказалі шырокія магчымасці братэрскага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі. Б. Хнеўпка прыняў І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк.

## ПРА МАЛОГА „ФІЯТА“.

Вось-вось распачнецца пробная прадукцыя „Фіятаў-126 р“ у Бельску Бялэй. На месяц раней будаўнікі і інсталятары закончылі мантажныя працы. Да канца гэтага года прадпрыемства, у якім працуе цяпер 800 асоб, павінна распачаць нармальную прадукцыю гэтых машын. (вл)

 ВАЯВОДСТВА

## І МЕСЦА

Нашае ваяводства першае ў краіне выканала план куплі мінеральных угнаенняў на 1972—73 гаспадарчы год. Заслуга ў гэтым беластоцкіх сялян, сельскагаспадарчай службы, сельгасгурткоў, вясковага гандлю і іншых вясковых установ. Найлепшымі вынікамі могуць пахваліцца Замброўскі, Алецкі, Кольненскі і Элцкі паветы. Спраўна арганізавалі продаж угнаенняў Бельскі і Гайнаўскі паветы. Слабей было з гэтым у Лапскім, Сакольскім, Беластоцкім і Сямяціцкім паветах.

## СУПОЛЬНА

Сакратарыят ВК ПАРП на чале з З. Куроўскім сустрэўся 5 чэрвеня з кіраўніцтвам ВК ЗСЛ. Абмяркоўвалася выкананне пастаноў супольнага пленума ВК ПАРП і ВК ЗСЛ са снежня мінулага года. Ад імя сакратарыята ВК ПАРП тав. З. Куроўскі сардэчна падзякаваў былому прэзасу ВК ЗСЛ Ю. Сапяжынскаму за шматгадовую працу на Беласточчыне.

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

У 150-ую гадавіну адкрыцця Аўгустоўскага канала ў Аўгустове адбылася прэс-канферэнцыя, на якую былі запрошаны журналісты цэнтральных і ваяводскіх газет. Гаспадары ваяводства і павета, а таксама спецыялісты сельскай гаспадаркі, турызму і прасторавага загаспадарання інфармавалі прысутных не толькі аб значэнні і гісторыі Аўгустоўскага канала, але і аб сённяшнім дні Аўгустоўшчыны.

## ЮБІЛЕЙНАЯ СЕСІЯ

У Беластоку праходзіла навуковая юбілейная сесія археолагаў. Мела яна асаблівы ўрачысты характар — адбывалася ў Год польскай навукі і ў юбілейны, 20-ты год існавання беластоцкага аддзела Польскага археалагічнага таварыства.

Дзейнасць беластоцкага аддзела была высока ацэнена. На канферэнцыі наш аддзел першы ў Польшчы атрымаў Медаль за заслугі для польскай археалогіі: Такія ж медалі былі ўручаны намесніку старшыні Прэзідыума ВРН Р. Лазаровічу, школьнаму археалагічнаму гуртку пры Эканамічным тэхнікуме ў Беластоку і аддзелу культуры і асветы „Газеты Беластоцкай“.

## СУПРАЦОЎНІЦТВА

Беластоцкая вышэйшая інжынерная школа цесна супрацоўнічае з палітэхнічнымі інстытутамі Мінска і Каўнаса. Ад студзеня ў ВСІ вядзе выклады дац. д-р С. Нічыпарук з Мінскага палітэхнічнага інстытута. Гэтымі днямі ў Каўнас ездзіла дэлегацыя ВСІ, у складзе якой знаходзіліся рэктар ВСІ Т. Бэлдоўскі і сакратар партарганізацыі Р. Стэцкевіч. У час візіту было вырашана абменьвацца інфармацыямі аб навуковых работах, арганізоўваць супольныя навуковыя канферэнцыі, абменьвацца студэнцкімі практыкамі, спартыўнымі і самадзейнымі калектывамі.

## ВЫСТАЎКІ

У клубе міжнароднай кніжкі і прэсы па вул. Сянкевіча ад 12 чэрвеня адкрыта выстаўка мастацтва Яна Фабіха, Марка Лэндоўскага і Андрэя Словіка, а ў салоне ЗПАП (Бюро артыстаў - мастакоў) на Рынку Касцюшкі — выстаўка мастацкай фатаграфіі З. Кадзевіча. (яч)




NIEDZIELA 17.VI.

7.30 Program dnia. 7.35 TV Kurs Rolniczy. 8.10 „Przypominamy, radzimy”. 8.20 „Alarm przeciwpożarowy trwa”. 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie”. 9.00 TELERANEK. 10.20 „Legendarny potwór” — film dok. ang. („Świat, który nie może zaginąć”). 10.45 Koncert niedzielny z Pragi. 12.00 „Muzy bez etatu” — program poświęcony amatorskiemu ruchowi muzycznemu. 11.45 Dziennik. 12.30 „Spotkanie w Kadzidle”. 13.00 Dla dzieci: „Złote wrota” — teatrzyk piosenki dziecięcej TV Słowackiej w Koszycach. 13.50 „Piosenka dla Ciebie”. 14.40 Losowanie Totolotka. 14.55 „Z dziejów Pomorza Zachodniego” („Śladami Piastów”). 16.25 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 17.45 „Gentelmen jezdni” — teleturniej. 18.35 „Kryteria”. 18.50 „Przyjąć czy odrzucić” — program publ. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Festiwal Piosenki Radzieckiej w Zielonej Górze. Koncert Finałowy. 23.20 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK 18.VI.

12.45 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja Rolnictwa. 15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec”; „Obserwatorium”. 17.30 „Echo stadionu”. 17.55 TV Kurier Białostocki. 18.10 „Oferty”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr TV: W. Faulkner — „W domu z powrotem” (na motywach powieści „Żołnierska zapłata”). 21.55 „Rodzina” — program publ. 22.25 Dziennik. 22.40 „Grazioso” — film balet. TV NRD.

WTOREK 19.VI.

10.00 „Iżorski batalion” — film fab. radz. 11.30 Filmy dokumentalne: — „Podróż w przyszłość” — prod. czechosł. — „Teatr w Bagdadzie” — prod. NRD. 15.20 TV Technikum Rolnicze: Matematyka. 15.55 TV Technikum Rolnicze: Mechanizacja Rolnictwa. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 POLITYKA DLA WSZYSTKICH. 19.10 „Przypominamy, radzimy”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Iżorski batalion” — film fab. radz. 21.45 „Bez togi”. 22.25 Dziennik. Wiadomości sportowe.

ŚRODA 20.VI.

10.00 „Duma Anglii” — film ang. („Elżbieta, królowa Anglii”) odc. VI — ostatni. 11.20 „Berlińskie miniatury” — film NRD. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Zoologia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Hodowla zwierząt. 14.00 „Wybieramy zawód”. 15.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Polonez dookoła świata” — „Atak na Horn” cz. II. 17.35 TV Kurier Warszawski. 17.55 Międzynarodowe zawody lekkoatletyczne o Memoriał J. Kusocińskiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Duma Anglii” — film ang. („Elżbieta, królowa Anglii”) odc. VI — ostatni. 21.35 „Forum”. 22.05 „Fletnia Pana” — program muzyczno-poetycki. 22.40 Dziennik. Wiadomości sportowe. 23.00 „Studio przebojów” — program TV NRD.

CZWARTEK 21.VI.

8.55 Program dnia. 9.00 „W starym kinie” — „Znak Zorro”. 10.35 „Świat, który nie może zaginąć” — film dok. ang. 11.00 „Świat musicalu”. 12.00 Dziennik. 12.15 „Wieloryby, delfiny i ludzie” — film dok. ang. („Czas i ludzie”). 13.10 Dla dzieci: „Bawmy się w teatr lalkowy” — program TV Węg. 13.45 „Wspomnienie o Joannie Jedlewskiej”. 14.25 „Wielka gra”. 15.25 „Święty” — film ang. 16.15 Reportaż filmowy. 16.45 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 17.35 „Miasteczko na szlaku’. 18.00 Międzynarodowe zawody lekkoatletyczne o Memoriał J. Kusocińskiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 XI Krajowy Festiwal Piosenki w Opolu. „Premiery — Opole 73”. 22.05 Magazyn sportowy.

PIĄTEK 22.VI.

10.00 „Teraz lub nigdy” — film dok. ang. 12.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 13.25 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Pora na Telesfora”. 17.25 „Nie tylko dla pań”. 18.00 „Gramy o telewizor”. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Dialogi historyczne”. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 XI Krajowy Festiwal Piosenki w Opolu. „Interpretacje”. 21.15 „Panorama”. 21.55 „Wniebowzięci” — film TVP. 22.40 Dziennik. Wiadomości sportowe.

SOBOTA 23.VI.

10.00 „Angelika i król” —film fab. franc. 13.45 TV Technikum Rolnicze: Chemia. 15.10 TV Technikum Rolnicze: Język polski. 15.40 Program dnia. 15.45 Program I proponuje. 16.05 Telereklama. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Starcie”. 17.10 „Spotkania z przyrodą”. 17.35 „Bieg po zdrowie”. 18.05 „Ziemia coraz dalej” — rep. film. 18.35 „Godzina Orfeusza” — mag. muz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 XI Krajowy Festiwal Piosenki w Opolu. „Mikrofon dla wszystkich”. 21.55 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.20 „Angelika i król” — film fab. franc. (kolor)




PIĄTEK, 15 czerwca

7.45 Film seryjny. 9.00 Film seryjny. 10.15 Szkoła szachowa. 10.45 Koncert. 11.30 Filmy dokument. 13.55 Program dnia. 14.00 Dla dzieci. 16.30 Film animowany dla dzieci. 17.10 Film muzyczny. 17.30 Świat socjalizmu. 18.00 Film fab. 19.00 Czas. 20.30 Program sportowy.

SOBOTA, 16 czerwca

7.00 Program dnia. 8.00 Przegląd międzynarodowy. 8.40 Film animowany dla dzieci. 9.00 Film seryjny. 11.45 Koncert życzeń. 13.15 Światła cyrku. 15.00 Film krótkometrażowy. 15.55 Program sportowy. 19.00 Czas. 19.30 Koncert. 20.30 Program sportowy.

NIEDZIELA, 17 czerwca

7.00 Program dnia. 8.00 Dla żołnierzy. 10.15 Film seryjny. 11.30 Film fab. 13.10 Koncert życzeń. 13.50 Filmy animowane. 15.20 Spotkania muzyczne. 16.10 Klub filmowy. 17.00 Turniej artystów baletu. 20.45 Program sportowy.



 

З IV ФЕСТЫВАЛЮ САЛДАЦКІХ ТЭАТРАЎ ПАЭЗІІ

## Сустрэча ў беларускім клубе

Грамадскасць нашай краіны ўрачыста святкуе XXX гадавіну ўтварэння Людовага Войска Польскага (ЛВП). У Беластоку адбыўся нядаўна IV фестываль салдацкіх тэатраў паэзіі. У сталіцу нашага ваяводства ўжо чацвёрты раз прыехалі салдацкія калектывы з усёй краіны, каб паказаць, што пад ваенным мундзірам маюць гарачыя сэрцы, чулівыя на прыгажосць. Жыхары нашага горада маглі пераканацца ў гэтым, прысутнічаючы на фестывальных спектаклях. Мы ганарымся, што іменна ў нас салдацкія тэатры паэзіі знайшлі месца, што ў нас маглі яны між сабой „спаборнічаць" і даць нам незабыўныя артыстычныя ўражанні.

Хлопцы ў мундзірах не абмежаваліся фестывальнай сцэнай. Далі яны канцэрты ў дамах культуры і клубах нашага горада.

Па запрашэнню Галоўнага праўлення і гарадскога аддзела БГКТ у клуб на Варшаўскую 11 прыбылі артысты ў мундзірах з Лужыцкай часці войск ахову пагранічча. На фестывалі выступілі яны з цікавай праграмай „З галавой на вінтоўцы".



Гумарыстычная сцэнка ў выкананні калектыву Лужыцкай часці ВОП.

Для слухачоў, якія запоўнілі вялікую залу ў ГП БГКТ, вайсковыя артысты паказалі іншую праграму. Пасля прывітання гасцей старшынёй тарадскога аддзела БГКТ Мікалаем Гайдуком, на сцэну ўвайшла група салдат. Ад гэтай пары паўтары гадзіны безупынна, царыцай была жаўнерская песня. Першую частку салдаты прысвяцілі баявому шляху Народнага Войска Польскага і братэрству зброі. Падборка песень і вершаў не маглі не парушыць сэрц гледачоў. Салдацкія артысты змяняюць свае „пазіцыі". На зале гарачыя воплескі, але гэта і не антракт і не канец. На сцэне цяпер песня і гумар. На гэты раз гэта пародыя штодзённага салдацкага жыцця.

Гучаць словы вядомай песні „То кампанія ідзе наша". Гэта апошняя песня паўтарагадзіннай праграмы. Па зале гучыць працяглае „біс". І зноў жвавым крокам на сцэну ўваходзяць салдаты Лужыцкай часці ВОП. Гучыць песня.

Яшчэ доўгія воплескі, воплескі ўдзячнасці за канцэрт, воплескі любві да нашага войска, воплескі найлепшых пажаданняў з нагоды юбілею XXX гадавіны ЛВП.

тэкст і фота **А. Карпюк**

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## Аркадзь Гарустовіч

Аркадзь Гарустовіч ужо 20 гадоў працуе фельчарам. Да 1964 года працаваў ён у цэнтры здароўя ў Чыжах, а зараз у Ляўкове Гайнаўскага павету. Працы нямала. Прыходзіць многа пацыентаў з навакольных вёсак. Да таго фельчару неабходна наведваць цяжка хворых дома. На даезды прыходзіцца траціць шмат часу. Каб хутчэй даехаць, прыдаўся б самаход.

Аркадзь Гарустовіч часта ездзіць у школы, каб моладзь не траціла часу на даезды, а магла карыстацца з лекарскай дапамогі на месцы.

У асенне-зімовы перыяд фельчар Аркадзь Гарустовіч вядзе курсы медычных ведаў сярод вясковых жанчын. Чытае ім лекцыі на тэмы асабістай гігіены, рацыянальнага харчавання, дае парады маладым маткам, як найлепш апекавацца дзецьмі ў першыя месяцы іх жыцця. А. Гарустовіч ніколі не абміне хаты, у якой нарадзілася дзіцё. Нованароджаныя маюць у фельчара асаблівыя прывілеі. Жыхары Ляўкоўскай, а нават цэлай Нараўкаўскай гміны цэняць і паважаюць свайго фельчара. Ведаюць, што ён ніколі не адмовіць і наведае хворага ў любую пару дня і ночы. Такая ўжо гэта нялёгкая і адказная прафесія. Аркадзь Гарустовіч спраўляецца са сваімі абавязкамі паспяхова. Дапамагае яму ў гэтым шматгадовы вопыт.

У цэнтры здароўя ў Ляўкове працуе медсястрой Вера Стасевіч, якая прыехала сюды пасля заканчэння вучобы ў Беластоку. Працу пачынала яна таксама ў Беластоку, бо на медсясцёр ёсць і тут запатрабаванне. Але пасля захацела яна быць бліжэй роднай хаты і працаваць сярод сваіх землякоў, ды дзякуючы атрыманым ведам скарачаць людскія цярпенні. І так працуе Вера Стасевіч ужо некалькі год, дзельна памагаючы фельчару Аркадзю Гарустовічу.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



## Горад і вёска ў працы ПДК у Сямяцічах

Дом культуры ў Сямяцічах змяшчаецца ў даўняй яўрэйскай бажніцы, адбудаванай і прыстасаванай да патрэб культурнай працы.

Формы працы дома культуры даволі шырокія, але толькі ў горадзе. А сілы ж ёсць. Асабліва вялікую карысць можа прынесці тэатральная дзейнасць, бо інструктар Зоф'я Пентка — добры спецыяліст па тэатры. Трэба, зрэшты, сказаць, што яна якраз ездзіць па вясковых калектывах.

У саміх Сямяцічах пры доме культуры працуюць наступныя калектывы: дзіцячы акарынны калектыў. Тут малое выясненне: акарына — старынны чэшскі горны інструмент, маленькі, накшталт кароценькай жалейкі, выконваецца з гліны. У сямяціцкім калектыве вучыцца іграць на акарыне 12 дзяцей. Іх настаўнікам з'яўляецца Тадэуш Сідаровіч. Сямяціцкі акарынны калектыў з'яўляецца адным з двух такіх калектываў у Польшчы. Другі працуе на Шлёнску. Тадэуша Сідаровіча цікавяць простыя фальклорныя мелодыі, друкаваныя ў „Ніве", і казаў ён, што пастараецца іх увесці ў праграму свайго калектыву.

Другі калектыў — гэта тэатр паэзіі. Ён вырас на базе дэкламатарскага клуба. З жывым словам працуе 15 асоб, а вядзе яго Зоф'я Пентка. Аж чатыры асобы з гэтага калектыву атрымалі ўзнагароды ў дэкламатарскім конкурсе на паявтовых элімінацыях.

Трэці — гэта міжшкольны дзіцячы калектыў „Паталашкі", у якім удзельнічае 60 малых дзяцей. Ён працуе на аснове казак і вершаў. Вядзе Зоф'я Пентка.

Чацвёрты — калектыў Лігі жанчын — драмгурток. Ставіў многа цікавых п'ес. Зараз працуюць над п'есай „Таня" Арбузава і „Пасажная адзіначка" Фрэдры.

Ліга жанчын мае таксама свой хор. Вядзе яго Станіслаў Ксепка — музык ПДК. Першы раз выступіў гэты хор на конкурсе савецкай песні ў Сямяцічах у гэтым годзе.

Сямяціцкая вёска, як ужо было сказана, застаецца на пабочны зацікаўленняў ПДК у Сямяцічах. А на вёсцы ж таксама любяць і ўмеюць дэкламаваць, іграць, спяваць, ды і таленты ёсць не горшыя, а мо нават і лепшыя. Прыклад насоўваецца вельмі актуальны — вёска Вілінава, дзе драмгурток паставіў сам, без ніякай дапамогі п'есу на беларускай мове А. Макаёнка „Трыбунал". І паставіў добра. Але павятовы дом культуры павінен вясковым людзям памагаць у іхніх пошуках. (вл)

## Трасцянка папрыгажэла

Трасцянка — вялікая вёска ў Гайнаўскім павеце — заўсёды на вачах чужых людзей, якія няспынна імчацца трасцянкаўскай вуліцай на аўтамабілях з Беластока ў Гайнаўку.

Прыемна сцвердзіць, што ў апошні час Трасцянка вельмі папрыгажэла. Яе жыхары не пашкадавалі сіл, каб упарадкаваць сваю вёску. Асабліва вылучыліся людзі маладыя. Сведчаць аб гэтым дрэвы і прытратуарныя палоскі (кравэнжнікі), памаляваныя вапнай, адрамантаваныя платы, якія адгароджваюць вясковыя садочкі.

Шкада толькі, што трасцяніцкія гаспадары адстаюць у Нараўскай гміне па куплі мінеральных угнаенняў.

Тэкст і фота **В. Р.**



## Весткі са школ

У многіх падставовых школах на Гайнаўшчыне ёсць шмат добрых спраў, аб якіх варта і трэба пісаць, бо за кожным хаця б і невялікім станоўчым фактам стаяць людзі.

ЛАСІНКА. Гарцэрская харугвія Беласточчыны носіць імя вядомага ў гісторыі чалавека — Валерыя Врублеўскага. У бягучым школьным годзе гарцэрская арганізацыя арганізавала турнір ведаў аб Валерыю Врублеўскім. У міжшкольных спаборніцтвах у раёне Нарвы ў гэтым турніры першае месца занялі гарцэры з Ласінкі Л. Жукавіцкая, Я. Раманюк і В. Асташэўская.

Гарцэры з Ласінкі з нагоды дзяржаўных свят і гадавін заўсёды рыхтуюць мастацкую частку. Нядаўна яны шмат працавалі пры пасадцы лесу і зарабілі 800 зл. Пры іх дапамозе была арганізавана для моладзі танцавальная вечарына, якая дала больш як 2,5 тысячы зл. даходу. Грошы гэтыя будуць выкарыстаны для арганізавання ў Ласінцы гарцэрскага „біваха".

НОВАБЕРАЗОВА. У гэтай школе зноў існуюць моцныя спартыўныя каманды. У ручны мяч дзяўчаты з Новаберазова праігрываюць у Гайнаўскім павеце толькі з вучнямі школы № 5 у Гайнаўцы. Па лёгкай атлетыцы спартсмены з Новага Беразова стаяць на другім месцы ў павеце.

За красавік спартыўныя каманды гэтай школы атрымалі 5 дыпломаў. А ўсіх дыпломаў за апошнія тры гады атрымана тут 16.

СТАРЫ КОРНІН. Кругом школы парадак. Растуць кветкі. Грамадскі чын школьнікаў асабліва быў адчувальны пры пабудове спартыўнага пляцу. Школьнікі нагрузілі і разгрузілі 40 тракрарных прычэп жвіру, а пры будове рамізы разгрузілі 10 трактарных прычэп цэглы. У гэтай школе ёсць 62 падпісчыкі „Нівы".

ГРАБАВЕЦ. IV клас мае найлепшыя вынікі ў навучанні. Ёсць тут поўныя выдатнікі. З'яўляюцца імі Аня Іванюк, Генрых Масілевіч, Марыся Леанюк і Лёня Васілюк. Троек не мае 8 асоб, а двоек 18 вучняў. А ў гэтым класе 19 дзяцей. Выхавальніцай гэтага класа з'яўляецца Анастасія Цімашук.

ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ. Выдатнікамі па прадмету беларуская мова з'яўляюцца Ваня Мац'евіч, Оля Грыгарук і Марыся Панфілюк. Усе яны з 8 класа. Пяцёркі па беларускай мове атрымоўвае таксама вучаніца 5 класа Ніна Алесюк. **(мх)**

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### АЖЫЎШЫ ТРЫТОН!

Цяжка сказаць, колькі часу праляжаў у вечнай мерзлаце на ўзбярэжжы Паўночнага Ледавітага акіяна гэты трытон. Яго знайшлі гарнякі, якія вядуць здабычу золата. У цёплым памяшканні трытон адтаяў і... да немалога здзіўлення людзей, ажыў. Яго пасялілі ў кватэры аднаго з гарнякоў, які першы выявіў здзіўляючую знаходку. Новая абстаноўка, відаць, спадабалася трытону: ён адчувае сябе цудоўна.

## Ці ведаеце, што...

...Варшаўскае Зоо, якому 45 год мае паверхню 40 га;

...мае 2 тысячы звяроў — 380 гатункаў, ёсць тут: белыя мядзведзі, сланы, львы, цюлені, аўстралійскія страўсы, бегемоты.

...у лютым гэтага года нарадзілася ў заапарку трое львянят. (аст)

## ПЛЯЖ у СУПРАСЛІ МАДЭРНІЗУЕЦЦА

Яшчэ ў мінулым годзе вельмі неахайны быў пляж над ракой у Супраслі. На беразе ракі ляжалі дзіравыя лодкі, рознае ламачча, смецце, шкло з разбітых бутэлек, драўляны памостак над вадою быў дзіравы і спарахнелы. Сёлета ранняй вясною бульдозеры пашырылі рэчышча Супраслі, выраўнялі пляж. Нават люстра вады ў рэчцы будзе значна паднята ўверх. Памаляваны ўсе кампінговыя домікі. Колькасць іх павялічылася на 9 новых. Ля домікаў змайстраваны лавачкі, а таксама каруселі і гойданкі для дзяцей. Вакол пасеена трава і пасаджаны кустарнікі. У сезоне на пляжы будзе адкрыты кіёск са спажывецкімі прадуктамі. (ця)

## ФАЛЬКЛОР




*Ой, чы все тые садонькі цвілі,*
*Што й порозвівалися?*
*Ой, чы все тыя й пожэнылися,*
*Што й верно любілісь?*
*Половінонька садоньку цвіло,*

*Половіна повяло —*
*Половінонька пожэнылосё,*
*Половіна зостало.*
*Половінонька пожэнылосё,*
*Половіна зостало.*

Ад Сакоўскай Веры, 1925 года нараджэння, вёска Новакорніна Гайнаўскага павету, запісаў 9 мая 1973 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

# „РАСА" ў КРУШЫНЯНАХ

З давен-даўна цягнецца ў Крушынянах звычай „хадзіць на расу" ў Юр'еў дзень. Многія жыхары гэтай вёскі не ішлі ў царкву і касцёл, але раненька, калі стаіць яшчэ вялікая раса, абходзілі свае палоскі, на якіх расло жытв, любаваліся пасевамі і адгадвалі, які будзе ўраджай. А каб выйсці разам, у штонебудзь моцна бубнілі, нават у патэльню. З пустымі рукамі, згодна з традыцыяй, ніхто не хадзіў на расу (там выгавараваюць гэтае слова праз „о" — „роса"). Кожны браў штосьці-небудзь з закускі — мяса, скваркі, каўбасу, сыр, пышкі, хлеб і абавязкова яечкі.



*Кастусь Макаль і Кастусь Пятэльскі выбіваюцца яйкамі.*

А калі, абрасіўшыся, усе разам сабраліся ў раней вызначанае месца, кожны выкладаў з кішэняў і торбачак тое, што з жыта на „росу" ўзяў. І заўсёды жартаўнік Данат Макаль, якога Донісем клічуць, сваім укладам у калектыўны харчовы банк усіх прысутных рассмешыць да покату.

10 год таму назад, спазніўшыся, Доніс падаў сваю велізарную пачку і сур'ёзна сказаў: „Няхай мне раз каштуе, прынёс я цэлую шынку". І пачалі разгортваць Донісеву пачку, а там папера ды папера, аж урэшце знайшлі ў ёй кусок зайцавай нагі. Усе са смеху аж за жываты браліся.



*Ідуць на «росу» крушынянцы.*

На іншае свята Юр'я Доніс прыйшоў да кампаніі і заявіў: „Знаеце, апрача сушанага сыра, я нічога больш не мог узяць". Разгарнулі — аказалася, што гэта вапнаваны камень.

А калі пад Давідавым лесам на адно свята Юр'я сабраліся, Доніс прынёс чэрап конскай галавы. І зноў смеху было многа. Смеху было многа таксама, калі яйкі зубалі і выбіваліся імі, калі сялянскія анекдоты і легенды расказвалі, калі ўсё рабілі, каб было добра і весела. У той час ужо на спецыяльна падрыхтаваных патэльнях яйкі смажыліся з каўбасой і саланінаю. Калі ўсё было падрыхтавана, сядалі, выпівалі за ўраджай і закусвалі, а косці і шкарлупкі ад яек у зямлю закопвалі, каб не толькі ўраджай на палях, але і ў хлявах добра спорыўся, ды таму яшчэ, каб грабіцца не было.

6 мая 1973 года ўжо не многа людзей пайшло на „росу". Памірае цікавая традыцыя разам са старэйшымі людзьмі. Ды і не абыходзілі гаспадары сваіх палосак — бо іх няма. Праведзеная там некалькі год таму назад камасацыя ліквідавала даўжэзныя палоскі. Землі гаспадарскія цяпер у вялікіх кавалках. Ніхто ўжо не зрасіўся ў вялікай жытняй руні. Група людзей на чале са старшынёй сельскагаспадарчага гуртка і адначасова прэзасам мясцовай пажарнай каманды Кастусём Пятэльскім раніцай выйшла з вёскі і дарогаю накіравалася ва ўрочышча „Грыбунт", разлажыла касцёр, насмажыла яек і пальцам напіханай сялянскай каўбасы, ды сеўшы на коцы, пачала балявацъ на ўлонні прыроды. Але гэтым разам не было ўжо вядомага анекдотчыка і жартаўніка Доніса. У пэўнай ступені выручыў яго другі Макаль, Кастусь. Толькі так, як раней, яйкамі выбіваліся, так, як раней, прыгожа спявалі. Успаміналі таксама аб прыгожым і ўжо памерлым звычаі, як яны, калісьці маладыя, хадзілі на Вялікдзень і спявалі дзяўчатам „Канапелькі", а кавалерам песню „Лолам" (апошні раз спявалі „Канапелькі" ў 1946 годзе, а „Лолам" — у 1937 годзе). У гэтых песнях яны славілі маладых людзей, маладосць і прадказвалі добрую будучыню. За гэта валакальнікам багата плацілі яйкамі, каўбасамі, сырам.

Пры кастры расказвалі крушынянцы шмат цікавых легенд аб сваёй мясцовасці, аб якіх мы напішам пазней. І хаця ўжо засталіся толькі рэшткі народных традыцый на Юр'еў дзень, аднак яны прыемныя і цікавыя.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



*Генадзь Краскевіч, Віталіс Байгуз і Іван Пятэльскі рыхтуюць закуску.*

Згоднасць гэтая праявілася ў поглядах аб надмерным песімізме і безнадзейнасці, дамінуючых у беларускай літаратуры. І Пяткевіч і Верашчака лічылі гэтыя рысы рысамі нятворчымі і бесперспектыўнымі. Песімізм не можа быць актыўны і па гэтай прычыне не можа служыць дзеянню і пошукам — такім быў кірунак думак Пяткевіча і Верашчакі. Бульба і Купала прытрымліваліся іншага пункту гледжання — былі пераканаваны, што літаратура можа мець у сабе толькі тыя элементы, якія акрэсліваюць характар існуючага жыцця. Прадмет спрэчкі меў доўгую гісторыю ў сусветнай літаратуры. Ці літаратура мае быць пацвярджэннем толькі сучаснага, ці мае ўключаць у сябе элементы будучага? Ці літаратура мае фіксіраваць толькі факты рэчаіснасці, ці прадугледжваць заўтрашні дзень і спрыяць, такім чынам, заснаванню акрэсленай формы будучыні?

Дзейнасць беларускіх пісьменнікаў-нашаніўцаў і звязаных з імі літаратурных крытыкаў сведчыла аб тым, што беларуская літаратура ўключылася ў агульнаеўрапейскія літаратурныя працэсы:

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў ў Бельску Падляшскім можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

Сказ пра Палессе, 1972, цана 24 зл. 20 гр.

Элегантны фотаальбом, прысвечаны характару прыроды і велічным пераменам, што адбыліся ў палескім краі ў гады савецкай улады. Мастацкія чорна-белыя і каляровыя фотаграмы Віталія Бараноўскага, тэкст Алеся Траяноўскага. У нашыя дні колішняе патанаўшае ў багне Палессе ператварацца ў сучасны магутны індустрыяльны цэнтр і рэгіён інтэнсіўнай сельскай гаспадаркі. Гэтыя вялікія перамены і іх стваральнікі — савецкія людзі — паказаны ў фотаальбоме.

Купала Янка, Жыццё і творчасць (1882 — 1942), 1972, стар. 176, цана 19 зл. 70 гр.

Альбом выдадзены з нагоды 90-ай гадавіны з дня нараджэння песняра беларускага народа. Уступны артыкул належыць пяру вядомага беларускага пісьменніка старэйшага пакалення Міхася Лынькова. Складальнікі альбома — І. К. Жыдовіч і Я. Ю. Раманоўская. Выданне багата ілюстравана арыгінальнымі здымкамі і фотакопіямі. Вельмі патрэбная рэч для настаўнікаў беларускай мовы!

Брыль Янка. Адзін дзень, 1968, стар. 264, цана 4 зл. 50 гр.

Зборнік лепшых твораў вядомага сучаснага беларускага пісьменніка. У выданне ўвайшлі „Адзін дзень", „Маці", „Прапаведнікі і зладзеі", „Сірочы хлеб" і іншыя творы. Гэта том вельмі добрай сучаснай беларускай прозы.

Залацінкі, 1972, стар. 144, цана 4 зл. 10 гр.

Зборнік твораў для дэкламацыі. Яго складальнікі — М. Аўрамчык і А. Кудравец. У выданне ўключаны вершы і празаічныя творы. Дасканалы матэрыял для школ і самадзейных аматарскіх калектываў, асабліва тэатраў паэзіі.

Звонак Алесь, Россып, 1967, стар. 352, цана 12 зл. 30 гр.

Зборнік выбраных твораў аднаго са старэйшых беларускіх паэтаў. А. Звонак упершыню з вершамі выступіў у друку ў 1925 годзе. Побач з плённай дзейнасцю на паэтычнай ніве ён вядомы таксама як аўтар сцэнічных твораў і сцэнарыяў дакументальных фільмаў.

Кнігарня імпартных выданняў у Бельску Падляшскім ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki", Bielsk Podlaski, ul. Mickiewicza 70, woj. białostockie.

(мг)

